ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 4(5186) Чацвер, 11 студзеня 2001 года

Кошт у розніцу — 47 руб.

З чым ідзём да дзяцей?

# Танталавы пакуты

## Што з'яўляецца асновай творчага педагагічнага мыслення?

ТАКОГА мноства шчырых інтэлектуальных рупліўцаў, як у адукацыі, няма ні ў якой іншай сферы чалавечай дзейнасці, хіба што толькі ў навуцы. Я іншы раз лаўлю сябе на думцы, што як бы ні ганілі некаторыя занадта фанабэрыстыя тэрмінатары пяра нашу школу і ўвогуле адукацыйную сістэму за такі нямодны цяпер кансерватызм, менавіта ў нашым кансерватыўным (маю на ўвазе — стабільна-узважаным, не ваяўнічым) асветніцтве найбольш чуйная ўспрымальнасць да новага. Гэтая ўспрымальнасць была заўсёды, нават у тыя часіны, стан школьнай адукацыі ў якіх хто-кольвек з вышыні сённяшняга дня называе стаячым балотам, якое зарастае цінай. Успомнім даўно забыты і добра-такі зганьбаваны вопыт ліпецкіх настаўнікаў, які прапагандаваўся, бадай, не менш, чым кукуруза ў сельскай гаспадарцы. Хіба пры ўсёй аглабельнасці той прапаганды не было ў гэтым вопыце рацыянальнага, па тым часе, зерня? Ліпецкія настаўнікі змянілі структуру традыцыйнага камбінаванага ўрока і па-новаму яго арганізавалі, што зрабіла ўрок больш цікавым і больш эфектыўным. Дрэнна, канешне, што канкрэтную форму ўрока, створаную ў Ліпецку, тады навязвалі ўсім школам. Аднак хіба ж яна не была прыгоднай для пэўных прадметаў, класаў, тэм? Хіба ж уся мітусня з навязваннем ліпецкага вопыту пры ўсім тым не дала пэўны штуршок развіццю педагагічнай думкі і творчасці настаўнікаў у магчымых для таго часу пэўных рамках? Вось да чаго я вяду: як і ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя, так і цяпер, у пачатку дваццаць першага, успрымальнасць да новага ў педагагічнай практыцы — важнейшая якасць як асобнага настаўніка, так і педагагічных калектываў. Зразумела, што сённяшняй метадычнай вольніцы тагачасныя настаўнікі маглі б толькі пазайздросціць, асабліва тыя, галоўным "хобі" якіх былі разважанні над складанымі і шматбаковымі пошукамі шляхоў і сродкаў сапраўды рэальнага абнаўлення навучальна-выхаваўчага працэсу і ўсёй сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

Імкненне настаўніцкай, як пісалі не так даўно, масы да навацый у педагогіцы і ўвогуле ў адукацыі і выхаванні нават пры цяперашняй фінансавай няшчымніцы не згасла, хаця псіхалагічны настрой настаўніка, асабліва ў дзень палучкі, прыўзнятым не назавеш. Большасць настаўнікаў прагна цягнуцца да новых ідэй, пастаянна аналізуюць свой педагагічны вопыт, асэнсоўваючы прычыны, якія прывялі да поспеху або няўдачы ў канкрэтных сітуацыях навучальна-выхаваўчага працэсу. І Вы, напэўна, узважваеце свае думкі і пачуцці, прасейваеце свае назіранні пасля напружанага працоўнага дня, праўда? Што Вас найбольш турбуе? Над якімі пытаннямі Вы найчасцей задумваецеся? Над тым, як павысіць эфектыўнасць разумовай працы вучняў на ўроках? Як пабудаваць урок так, каб дзецям было цікава вывучаць новы матэрыял? Якім чынам зрабіць сваіх выхаванцаў сааўтарамі заняткаў? Як прывіваць вучням навыкі самаадукацыі? Зноў і зноў Вы аналізуеце свае педагагічныя дзеянні і дзіцячую рэакцыю на іх. Шукаеце найбольш аптымальныя рашэнні — педагагічных жа задач, якія патрабуюць не аднаго, а многіх рашэнняў, ой колькі многа! А што стварае такое мноства рашэнняў? Вопыт. Ваш уласны і вопыт калег. Без гэтага вопыту шлях творчых шуканняў будзе не толькі калдобістым, але і пакручастым. А каму ахвота блукаць па калдобінах?

І ўсё ж педагагічны вопыт, якім бы багатым ён ні быў, не з'яўляецца заслонай ад пралікаў і няўдач у навучанні і выхаванні. Як і стараннае перапісванне ў метадычных кабінетах гатовых метадычных распрацовак, апор і схем, гатоўнасць пераймаць да драбніц метадычныя рэкамендацыі і тэхналогіі, якія цяпер на слыху. Вам, напэўна, знаёма тое пачуццё разгубленасці, ніякаватасці, якое змяніла ў душы ўзнёсласць пасля таго, як спроба перанесці ў свой клас, у выкладанне свайго прадмета прыёмаў і метадаў работы вядомага калегі закончылася няўдачай? Чаму ж іншы раз азарэнне ("Усё, аказваецца, так проста!") раптам трансфармуецца ў сур'ёзны, а то і пакутлівы роздум, выкліканы тым, што методыка, праверанная, здавалася б, практыкай, не спрацоўвае? Прычына, на мой погляд, не толькі ў метадалагічна няправільным стаўленні да самога вопыту ("Зраблю так, як зрабіў мой калега, і ўсё ў мяне будзе цудоўна!"), не толькі ў недастатковай педагагічнай "узброенасці", што не дае магчымасці ўбачыць узаемасувязі ў вялікім і складаным свеце педагагічных з'яў і звёны, якія складаюць гэтыя з'явы, з прычыны чаго і не ўдаецца ўлавіць абагульняючую думку ў канкрэтным вопыце (яшчэ ж К.Д.Ушынскі папярэджваў: важны не сам вопыт, а думка, выведзеная з яго). Галоўнае, бадай, у недаацэнцы неабходнасці штодзённа ўмацоўваць падмурак сваіх ведаў, што мы з вамі называем самаадукацыяй.

НАСТАЎНІКІ, якім за сорак, добра памятаюць той час, калі пры вымаўленні слова "самаадукацыя" ў іх учашчаўся пульс: планы па самаадукацыі былі адным з важнейшых паказчыкаў творчага стаўлення да сваіх настаўніцкіх абавязкаў. Пра гэтыя планы гаварылася і на педсаветах, і на пасяджэннях метадычных аб'яднанняў, і з вока на вока ў кабінеце дырэктара школы. Паспрабуй адмахнуцца ад напісання плана па сваёй самаадукацыі — адразу пачуеш ад школьных кіраўнікоў строгі папрок і натацыю, што без пастаяннага абнаўлення сваіх ведаў і навыкаў немагчыма паспець за дынамікай грамадскага і навукова-тэхнічнага развіцця. Не было таго даклада на педсавеце ці на семінары, у якім бы не рабіўся акцэнт на павышэнні патрабаванняў да зместу працы кожнага настаўніка, да ўзроўню яго адукаванасці і прафесійнай падрыхтоўкі... Так, далёка не аднолькава ставіліся настаўнікі да напісання планаў па самаадукацыі, але большасць з іх лічыла гэта пустым, абцяжарваючым, непатрэбным заняткам. І логіка ў гэтым была, бо ў настаўніка і без таго хапае пісаніны, час на якую лепш бы ахвяраваць на жывую педагагічную працу з дзецьмі ці на чытанне кніг.

Урэшце планы па самаадукацыі адмянілі, што, канешне ж, крыху аблегчыла настаўніцкую долю. Але жыццё паказала, што адмена паператворчасці не з'яўляецца сінонімам адмены самаадукацыі, бо самаадукацыя была і застаецца ва ўсе часы, на любым вітку развіцця агульнаадукацыйнай школы невычэрпнай крыніцай новых ідэй, шліфоўкі прафесійнага майстэрства, папаўнення вопыту. Між тым крытычнае, нават саркастычнае стаўленне да былой "планавай" формы самаадукацыі, пры якой паміж планам і яго практычным увасабленнем зеўрала прорва, пачало пакрысе выцясняць адносіны да самаадукацыі як да асновы творчага педагагічнага мыслення. Я не маю падстаў для высновы, што самаадукацыю як неад'емную з'яву педагагічнай дзейнасці патрэбна рэанімíраваць, але ж, пагадзіцеся, праблему самаадукацыі ўжо засланяюць праблемы фінансавыя і матэрыяльныя. Скрушна робіцца на душы, калі чуеш ад некаторых настаўнікаў фразу, якая ўжо стала сакраментальнай: "Як плацяць, так і працуем...".

Так, плацяць для выжывання, але ж ці вінаваты ў гэтым дзеці?..

У адукацыйнай сістэмы нашай краіны разгалінаваная сетка ўстаноў і грамадскіх аб'яднанняў, якія працуюць на паслядыпломную адукацыю педагогаў. Іх дзейнасць вельмі важная, несумненна, у аказанні настаўнікам дапамогі ў павышэнні кваліфікацыі і ў перападрыхтоўцы, у кансультаванні і выпрацоўцы рэкамендацый. Аднак альфа і амега прафесійнага ўдасканалення настаўніка — першакрыніцы ў педагогіцы і псіхалогіі. Але давайце спытаем сябе: ці часта "даходзяць" нашы рукі да першакрыніц?.. Мне даводзілася чуць такую думку, што творы Ушынскага, Макаранкі, Шацкага, Блонскага, Крупскай, ужо не кажучы пра Каменскага і Песталоцы, састарэлі, што цяпер нараджаецца прынцыпова новая педагогіка, новая школа, у якой новыя педагагічныя куміры. Так, згодны, і педагогіка, і школа абнаўляюцца, але ж ці не з'яўляецца многае з гэтага новага добра забытым старым? Хіба яркія настаўніцкія індывідуальнасці апошніх дзесяцігоддзяў XX стагоддзя не "выплавілі" свае залацінкі-ідэі з залатаноснай пароды педагагічных ідэй мінулых стагоддзяў? Ёсць, зразумела, і шлак, але ж ці не цягнуцца ніці ад сапраўды новага, эфектыўнага ў сённяшняй педагагічнай практыцы і навуцы ў мінулыя стагоддзі? Хіба адраджэнне творчага педагагічнага мыслення не грунтуецца на асэнсаванні шляхоў развіцця педагагічнай думкі за мінулыя стагоддзі?

Калі мне раяць пазнаёміцца з вопытам высокакваліфікаванага настаўніка, я заўсёды цікаўлюся, чым дасягаецца поспех у яго працы. Глыбокія веды вучняў, як правіла, з'яўляюцца вынікам эфектыўнасці кожнага ўрока, якая стала магчымай дзякуючы сур'ёзнай і рознабаковай падрыхтоўцы да заняткаў, удумліваму адбору лепшых, аптымальных для канкрэтнага класа сродкаў, спосабаў і прыёмаў раскрыцця вывучаемай тэмы. Падрыхтоўка да ўрокаў правільна спалучаецца з самаадукацыяй — вось што забяспечвае ўдалы пошук шляхоў навучання, выхавання і развіцця асобы юнага чалавека. У такіх настаўнікаў заўважаеш імкненне пераходзіць ад стыхійнага накаплення вопыту да яго свядомага стварэння. І гэты пераход ім удаецца. Таму рух іх педагагічнай думкі і выклікае сустрэчны рух думкі вучня.

Высокакваліфікаваныя настаўнікі пастаянна ўзбагачаюць свае веды, вядуць спецыяльныя сшыткі з рознымі рубрыкамі, у якіх запісваюць цікавыя думкі з кніг, газет і часопісаў. Некаторыя настаўнікі выпісваюць думкі, якія спадабаліся ім, на асобныя карткі. Мне даводзілася бачыць у вопытных педагогаў і агульныя сшыткі з выпіскамі найбольш каштоўнага, значнага па праблемах навучання і выхавання, у тым ліку — класнага кіраўніцтва. Зразумейце мяне правільна, я не агітую за паўсюднае ўвядзенне такіх картак і сшыткаў. Я пра іншае: не запісаная думка — страчаная думка. А запісваецца яна не для вока правяраючага, а для практычнай работы з дзецьмі, павышэння сваёй кваліфікацыі, для асэнсавання і розуму.

ПАМЯТАЕЦЕ старажытнагрэчаскі міф пра цара Тантала, якога Зеўс асудзіў на пакуты голаду і смагі, нягледзячы на блізкасць зямных пладоў і вады? Дык ці не асуджаем мы сябе па сваёй волі на танталавы пакуты, калі не вучымся тэхніцы працы з крыніцамі інфармацыі, калі не маем дакладнай сістэмы ў самаадукацыі, а чытаем урыўкамі, павярхоўна, а то і фармальна?

Хіба не варта задумацца над гэтым на старце трэцяй (ці не асноўнай?) чвэрці навучальнага года?

Алег КУЛІЦКІ.

## Прага палёту



Быхаўскі дзіцячы аэраклуб існуе з таго часу, як горад пакінулі вайскоўцы. Цяпер мясцовыя хлопцы маюць магчымасць займацца парашутным спортам, вывучаць канструкцыю самалёта, вучыцца ім кіраваць. Нягледзячы на тое, што аэраклуб апошнім часам належыць Быхаўскаму ліцэю, займацца ў ім могуць не толькі ліцэісты, але і мясцовая моладзь.

НА ЗДЫМКУ: да скачкоў з парашутам вучні рыхтуюцца пад наглядам загадчыка аэраклуба пілота І класа Юрыя Уладзіміравіча Хвастова.

Фота Юрыя БОНДАРАВА..

Добрая навіна

# Лепшыя педагогі сталіцы атрымалі прэміі

***Напярэдадні Новага года лепшыя педагогі Мінска атрымалі прэміі Мінгарвыканкама. Гэта — першая падзея такога кшталту не толькі ў гісторыі сталічнай адукацыі, але і ў педагагічнай гісторыі краіны.***

Грамадства сёння, як ніколі, адчувае вострую патрэбу ў творчых, высокаадукаваных асобах. І галоўнай умовай, неабходнай для таго, каб такія асобы ў нас паяўляліся і сцвярджаліся, з'яўляецца наяўнасць творчых, адораных, высокаадукаваных педагогаў. Яшчэ летам 2000 года загадчык Мінскага гарадскога ўпраўлення адукацыі Міхаіл Сяргеевіч Ціцянкоў выступіў з ініцыятывай адзначыць і падтрымаць самых творчых настаўнікаў і кіраўнікоў педагагічных устаноў Мінска. Мінгарвыканкам і Прэзідэнт краіны падтрымалі гэту прапанову. 24 жніўня 2000 года Мінгарвыканкамам была прынята пастанова аб стымуляванні працы педагагічных работнікаў і ўстаноў адукацыі, якая прадугледжвае штогодную прэмію ў памеры 50 мінімальных зарплат, якая будзе ўручацца ста лепшым педагогам горада: настаўнікам, выхавацелям, кіраўнікам адукацыйных устаноў, метадыстам, работнікам дашкольных і пазашкольных дзіцячых устаноў. Таксама Мінгарвыканкам будзе штогод выдзяляць 100 грантаў лепшым педагагічным калектывам сталіцы.

У канцы 2000 года з 32 тысяч педагогаў Мінска ўпершыню былі выбраны сто лепшых, якія з'яўляюцца сапраўднымі прафесіяналамі і яркімі асобамі. Іх прафесіяналізм ужо знайшоў сваё ўвасабленне ў вучнях, многія з якіх з'яўляюцца пераможцамі і лаўрэатамі алімпіяд, конкурсаў, турніраў — у міжнародным маштабе. Імёны гэтых настаўнікаў ужо ўвайшлі ў гісторыю роднага горада, таму што яны — лепшыя, і яны — першыя, чыя праца была заўважана і ацэнена гарадскімі ўладамі.

Святлана СУБОЦІНА.

Сацыяльны ракурс

# "Не пасылка дарагая..."

Іўеўская дапаможная школа-інтэрнат была адкрыта на базе агульнаадукцыйнай школы-інтэрната ў 1982 годзе. Раней не толькі навучанне было бясплатным, але і дзеці знаходзіліся на поўным дзяржаўным забеспячэнні: іх тут, як кажуць, і кармілі, і апраналі, і клалі спаць у беласнежныя пасцелі.

У апошнія гады адбыліся істотныя змены: дзеці, як і раней, бясплатна вучацца і харчуюцца, а вось усім астатнім — адзеннем, абуткам і г.д. — іх павінны забяспечваць бацькі. Здаецца, не так ужо і многа патрабуецца ад бацькоў. Аднак калі ўлічыць, што многія (калі не большасць) дзеці прыходзяць у школу з бедных, праблемных, як цяпер называюць, сем'яў, у якіх бацькі злоўжываюць спіртнымі напоямі, лайдачаць, часам увогуле не працуюць ці перабіваюцца нейкімі выпадковымі заробкамі, абыякава адносяцца да лёсу ўласных дзяцей, іх будучага, стану здароўя, то такіх дзетак можна толькі пашкадаваць і па магчымасці дапамагчы.

Ужо стала добрай традыцыяй, што педагогі і дырэктар Іўеўскага Цэнтра пазашкольнай работы штогод, і не адзін раз, бываюць у нашых выхаванцаў у гасцях. Яны прыходзяць не з пустымі рукамі, а са шматлікімі падарункамі, гуманітарнай дапамогай, якую збіраюць дзеці Цэнтра, жыхары горада: адзенне, абутак, школьна-пісьмовыя прылады. З іх дапамогай ладзяцца сумесныя гульні, канцэрты мастацкай самадзейнасці, спартыўныя спаборніцтвы. Усе гэтыя мерапрыемствы праходзяць весела, цікава, карысна для ўсіх.

Удзячны нашы выхаванцы дзецям, педагогам і кіраўніцтву Юрацішкаўскай сярэдняй школы, што ў дванаццаці кіламетрах ад райцэнтра, за гуманітарную дапамогу, за выдатныя канцэрты мастацкай самадзейнасці, падрыхтаваныя калектывам школы.

Не абыходзяць нашу школу і святары мясцовых храмаў: праваслаўнага і каталіцкага. Яны штогод у дні вялікіх рэлігійных свят наведваюць школу і прывозяць падарункі. Дзеці гэтаму вельмі рады, бо ад бацькоў яны не ўсе атрымліваюць падарункі.

Я, як кіраўнік гісторыка-краязнаўчага гуртка, часта бываю з дзецьмі на экскурсіях на прамысловых прадпрыемствах горада і за межамі раёна. Усюды нас сустракаюць і прымаюць шчыра, сардэчна і пры магчымасці нечым дапамагаюць, частуюць, нешта дораць. Так, дырэктар Лідскай абутковай фабрыкі Алег Іванавіч Трафіменка па маёй асабістай просьбе ў мінулым годзе знайшоў магчымасць, каб абуць усіх выхаванцаў маёй падапечнай групы. Хоць зразумела, што і іх прадпрыемства знаходзілася не ў зайздросным фінансава-эканамічным становішчы. Нават мясцовыя паліграфісты, прадпрыемства якіх мы наведалі, не выпусцілі нас без падарунка: яны на вачах у дзяцей зрабілі і падарылі кожнаму па альбому для малявання. Я ўжо не гавару пра такія прадпрыемствы, як кансервавы завод, камбінат кандытарскіх вырабаў ці хлебазавод, у магчымасцях якіх — шчодра пачаставаць дзяцей, і яны гэта робяць.

Аб павазе, сардэчных адносінах да дзяцей сведчыць і яшчэ адзін факт. На гродзенскі завод карданных валоў на экскурсію мы прыехалі даволі рана — у 8 гадзін былі ўжо на прахадной. Прызначаны нам экскурсавод-жанчына, пазнаёміўшыся з намі, даведаўшыся, з якой школы дзеці, завяла ў сталовую, дзе нас бясплатна пакармілі. Некаму можа падацца, што гэта дробязь. Згодзен. Але гэтая дробязь гаворыць пра многае і найперш — пра спагадлівасць да пакрыўджаных лёсам дзяцей. Паболей было б такіх дробязей у нашым жыцці.

Барыс Іосіфавіч Гуль — ураджэнец Іўеўскага раёна, але жыццёвы лёс склаўся так, што адразу пасля службы ў Савецкай Арміі стаў працаваць там, дзе праходзіў службу — на поўначы Расіі. Атрымаўшы права на заслужаны адпачынак, вырашыў вярнуцца на радзіму. Ён наведаўся ў нашу школу, прывёз каля сотні найменняў адзення і абутку ў падарунак дзецям. Усё гэта было раздадзена тым, хто меў найбольшую патрэбу. І дзеці былі шчыра ўдзячны добраму чалавеку. А ён жа мог паступіць інакш: усе рэчы прадаць на рынку і атрымаць за гэта неблагую капейку.

Шляхоў, каб праявіць міласэрнасць, дабрачыннасць у адносінах да дзяцей, пакрыўджаных не толькі лёсам, але і тымі, хто даў ім жыццё — бацькамі, хапае, як і магчымасцяў. І няхай не ў вялікім маштабе, а сціпла, але — як некалі пісаў Пятро Глебка ў вершы "Пасылка": "...не пасылка дарагая, а братэрская любоў..." Так і тут.

Абсалютная большасць выхаванцаў не ведае, што такое ўласныя грошы, не мае магчымасці купіць для сябе нават самую танную прысмаку: цукерку ці марожанае, пачку пячэння ці булачку. Многія нават не маюць грошай, каб аплачваць праезд, таму ў школу ці са школы дамоў умудраюцца праехаць "зайцам". Дзеці з маленства вучацца (жыццё вымушае!) хітрыць, маніць, выкручвацца, бо дзяржава не можа адважыцца на дабрачынны крок: зрабіць бясплатны праезд у школу і са школы дамоў, ну, хоць бы чатыры-шэсць разоў на працягу навучальнага года. Ці не дзіўна гэта?

Зноў-такі па маёй просьбе кіраўніцтва Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі дало нам дазвол на бясплатны праезд групы дзяцей на экскурсію ў горад Баранавічы ад станцыі Гаўя да Баранавіч. Мы сардэчна ўдзячны спагадлівым, разумным людзям. Дапамагаў транспартам нам мясцовы райвыканкам, раённы аддзел адукацыі.

Хочацца свой допіс закончыць словамі з вядомай песні: "...на свеце добрых людзей няма-ла". І гэта вельмі радуе. Сапраўды, калі пажадаем, то магчымасць праявіць міласэрнасць заўсёды знойдзецца.

**Іван ГОВАР,**
**ветэран педагагічнай працы, педагог Іўеўскай дапаможнай школы-інтэрната.**

Падзея

# У кожнага будзе "Буквар"

***Да 12 студзеня ў Нацыянальным навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання будзе праходзіць выстава падручнікаў і вучэбна-метадычных комплексаў для дзяцей з парушэннямі здароўя і псіхафізічнага развіцця.***

Пачынаючы з 1996 года, у нашай краіне вядзецца падрыхтоўка айчынных падручнікаў для дзяцей з парушэннямі інтэлекту, слыху, мовы, для дзяцей з затрымкай псіхафізічнага развіцця. У 1997 годзе з'явіліся першыя ў гісторыі Беларусі падручнікі для сляпых дзяцей, надрукаваныя шрыфтам Брайля. У 1998 годзе пачалося выданне вучэбнай літаратуры павялічаным шрыфтам для дзяцей з цяжкімі парушэннямі зроку. У 2000 годзе сляпыя дзеці атрымалі свой першы "Буквар". Сёння мы ўжо маем 150 найменняў новых падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, 27 вучэбна-метадычных дапаможнікаў і больш як 60 вучэбных праграм. Многія з гэтых выданняў цяпер і прадстаўлены на выставе.

Выстава вучэбнай літаратуры стала падставай для таго, каб за адным "круглым" сталом сабраліся аўтары і складальнікі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, выдаўцы, настаўнікі-дэфектолагі, кіраўнікі і пагаварылі пра тое, якія падручнікі атрымаліся, што патрэбна выпраўляць пры стварэнні новых, чаго чакаюць настаўнікі і дзеці ў школах, ды і ўвогуле паразважаць над праблемамі, якія існуюць у сістэме.

У нашай краіне 241547 дзяцей маюць парушэнні ў здароўі і псіхічным развіцці. Гэта 10,9 працэнта ад усёй колькасці дзяцей ва ўзросце да 14 год. Дзесяці палова гэтых дзяцей не спраўляецца з вучэбнай праграмай, а таму патрабуе асаблівых умоў пры навучанні, спецыяльных праграм і спецыяльнай вучэбнай літаратуры. Ала Мікалаеўна Канаплёва, начальнік аддзела Міністэрства адукацыі, якраз і гаварыла на сустрэчы пра тое, што мінуў час, калі мы хавалі гэтых дзяцей ад людскіх вачэй за высокім плотам, ізалявалі іх ад грамадства. Мы прыйшлі да таго, што ўжо не падзяляем дзяцей на "ненавучаемых" і навучаемых, мы змянілі свае падыходы ў навучанні дзяцей з асаблівасцямі развіцця, знялі адмоўныя атрыбуты ў абазначэнні дзяцей з парушэннямі, адышлі ад жорсткай уніфікаванай спецшколы закрытага тыпу і перайшлі да дыферэнцаванага, асобасна-арыентаванага навучання.

Зараз у нас разам са спецыяльнымі школамі і школамі-інтэрнатамі навучаннем дзяцей з рознымі відамі парушэнняў займаюцца спецыяльныя класы (520 класаў) і класы інтэграванага навучання (1925 класаў). Карэкцыйную дапамогу дзецям аказваюць каля 800 дэфекталагічных пунктаў і 70 цэнтраў карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. Сістэма спецыяльнай адукацыі — адно са звенняў усёй сістэмы адукацыі, таму яна зараз таксама перажывае рэформу. Ужо нават скончыўся яе першы этап. За гэты час былі створаны падрыхтоўчыя класы, пачатковая школа напоўнілася новым зместам, рыхтуюцца для зацвярджэння першыя стандарты спецыяльнай адукацыі, выдадзены новыя айчынныя падручнікі. Настаўнікі-дэфектолагі, выступаючы на пасяджэнні "круглага" стала, выказвалі сваю падзяку аўтарам і складальнікам вучэбна-метадычных комплексаў за іх працу, называючы іх нашай нацыянальнай гордасцю. Кожнае дзіця ў нашай краіне мае права атрымаць адукацыю, і для кожнага дзіцяці ў нас будзе створаны яго "Буквар".

Святлана КІРСАНАВА.

Аўтапартрэт гімназіі

# Белая чайка над возерам Дрывяты

***Больш за пяць гадоў таму ў самым аддаленым куточку Віцебскай вобласці, у горадзе Браславе, адкрылася гімназія для дзяцей горада і ўсяго Браслаўскага раёна. На аснове конкурснага адбору сюды паступаюць дзеці, якія скончылі школу і жадаюць атрымаць такі ж узровень адукацыі, як і равеснікі ў абласных і сталічных цэнтрах. Бо гарадскія школьнікі дасягаюць свайго ўзроўню ведаў яшчэ і дзякуючы знаходжанню ў вызначаным соцыуме, у гарадскіх умовах, а вось сельскія дзеці такой магчымасці не маюць. Таму вучэбная ўстанова новага тыпу — гімназія — павінна паспяхова вырашыць гэтую праблему.***

З першага дня існавання гімназіі адміністрацыя пачала акуратна і асцярожна накіроўваць калектыў настаўнікаў на раскрыццё іх творчых магчымасцей, асабістага патэнцыялу, у першую чаргу — праз метадычную работу. Гэта вельмі магутны, сур'ёзны рычаг для раскрыцця творчых магчымасцей настаўнікаў. Курсы перападрыхтоўкі, сістэма самаадукацыі, наведванне аналагічных навучальных устаноў, увядзенне пасады намесніка дырэктара па навукова-метадычнай рабоце, стварэнне навукова-метадычнага савета — паступова пачалі даваць адчувальныя вынікі. Пачалі фарміравацца творчыя групы педагогаў, ствараліся навуковыя таварыствы педагогаў і вучняў.

Педагагічны калектыў склаўся працаздольны, сярэдні ўзрост педагогаў — 33 гады, сярэдні стаж — 14 гадоў. Адміністрацыя гімназіі павінна была аб'яднаць намаганні настаўнікаў са стажам работы, чый творчы патэнцыял застаецца дастаткова адметным, і энергію тых, хто прыйшоў да нас, актыўных маладых настаўнікаў. Гэтая праблема вырашалася ў межах стварэння школы маладога педагога "6-ы курс". Тым самым мы змаглі адаптаваць у калектыве маладых настаўнікаў, якія нядаўна прыйшлі ў гімназію, і запатрабаваць жыццёвы вопыт майстроў педагагічнай працы.

На жаль, у нас, як і ва ўсіх, існуе праблема з падборам педагагічных кадраў: нам патрэбны настаўнікі матэматыкі, музыкі, сусветнай мастацкай культуры, англійскай мовы. Мы рады прыняць у сябе маладых, энергічных і творчых людзей. А потым, у рамках паглыблення метадычнай і творчай работы, мы заключылі дагавор з Акадэміяй паслядыпломнай адукацыі аб стварэнні на базе нашай навучальнай установы эксперыментальнай пляцоўкі. І пачалася ансамблевая падрыхтоўка педагагічнага калектыву гімназіі. Чатырнаццаць раз прыязджалі да нас супрацоўнікі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі і працавалі індывідуальна, па кафедрах і з усім калектывам настаўнікаў па пытаннях укаранення ў практыку работы навейшых педагагічных тэхналогій, стварэння гуманістычнай сістэмы выхавання.

За гэтыя гады сталі адметнымі і якасныя змены ў кіраванні гімназіяй. Справа ў тым, што кіраванне — гэта складаны працэс, што прыжываецца ў яго структуры. Нешта прыжывецца, а што не прыжывецца — тое само адамрэ. Ёсць змены ў гімназічным самакіраванні. Доўга складвалася гэтая сістэма, пакуль не выйшлі на Савет лідэраў.

Мы стварылі сістэму кіравання навучальна-выхаваўчым працэсам праз прадметныя кафедры. Іх у нас чатыры: кафедра прыродазнаўча-матэматычных і грамадска-гуманітарных дысцыплін, замежных моў і кафедра дысцыплін эстэтычнага цыкла. Гэтая сістэма пабудавана па прынцыпе кіравання па выніках. Дні ДРК (дыягностыка, рэгуляванне, кантроль) сталі звычайнай справай.

З гадамі сталі адметнымі і якасныя змяненні ў нашай рабоце. Якасць навучання паляпшаецца з кожным навучальным годам: павялічваецца колькасць пераможцаў шматлікіх праглядаў і конкурсаў, прадметных алімпіяд. Кожны год маем высокі працэнт паступленняў у ВНУ нашых выпускнікоў. Вялікую ўвагу мы надаем атэстацыі педагагічных кадраў. Атэстацыя, калі яе ўмела выкарыстоўваць, можа стаць магутным стымулам для творчасці настаўнікаў. Гэты стымул мы і выкарыстоўваем. Мы паставілі перад настаўнікамі задачу не проста чыста фармальнай атэстацыі, а прапанавалі зрабіць гэта момантам творчай справаздачы ў рамках тыдня адкрытых урокаў. На працягу 1-2 тыдняў аб'яўляем усе ўрокі адкрытымі і паказваем творчую лабараторыю настаўніка. І педагогі-калегі пайшлі на ўрок, з цікавасцю назіралі за творчым пошукам атэстуемых. А далей была справаздача настаўніка перад шырокім колам настаўнікаў, вучняў і іх бацькоў на вечары "Настаўнік года гімназіі". Атэстуемыя настаўнікі пры падтрымцы сваіх вучняў спаборнічалі ў конкурсе "Выпрабаванне Зеўсам". Такія моманты заўсёды стымулююць жыццядзейнасць настаўніка і яго працу. А заканчвалася гэта творчай справаздачай настаўніка перад атэстацыйнай камісіяй. За гады існавання гімназіі ў яе сценах восем чалавек атрымалі вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю.

Стала добрай традыцыяй у канцы кожнага навучальнага года праводзіць "Панараму метадычных ідэй". За вучэбны год настаўнікі напрацоўваюць многа цікавага і адкрываюць сябе не толькі перад адміністрацыяй і калегамі, а і перад самімі сабой і вучнямі. У выніку гэтая справаздача, убачаная ўсім педагагічным калектывам, становіцца магутным штуршком да творчасці і выклікае жаданне калег таксама паказаць, на што яны здольныя.

Калі ў калектыве ідзе працэс творчасці, а ў нас так яно і ёсць, то людзі не займаюцца дробязнымі справамі, знікае трывожнасць, паяўляецца сапраўдная справа, у якой кожны хацеў бы сябе рэалізаваць.

Творчасць настаўнікаў абудзіла творчасць вучняў. У гэтым годзе мы правялі першую гімназічную навукова-практычную канферэнцыю. Даследчай дзейнасцю займаліся 44 вучні гімназіі. Дзесяць лепшых з іх удзельнічалі ў навукова-практычнай канферэнцыі ліцэя БДУ, з якім у нас складліся добрыя дзелавыя адносіны.

У нашай гімназіі, як і ў іншых навучальных установах, існавалі і існуюць псіхалагічныя праблемы. Дзеці, якія паступаюць да нас, крыху скаваныя, няўпэўненыя, не ўмеюць раскрывацца, баяцца настаўніка, равеснікаў. Гэта ўзмацняецца яшчэ і тым, што яны прыйшлі з розных школ раёна, ад розных настаўнікаў, з розным узроўнем развіцця інтэлекту і псіхікі. Вось чаму мы вырашылі істотна пашырыць адукацыйны кампанент, увёўшы за кошт гадзін гімназічнага кампанента курс "Чалавек у сучасным свеце", дзе вывучаюцца культура паводзін, этыка, эстэтыка, валеалогія, псіхалогія, экалогія, асновы бізнесу, уводзіны ў эканоміку і правазнаўства. Акрамя гэтага, мы ўвялі 27 спецыяльных курсаў па выбары вучняў, сярод якіх ёсць псіхалагічныя курсы. Мы маем магчымасць прапанаваць шэраг пазаўрочных развіваючых прадметаў, якія даюцца ў горадзе на платнай аснове ў індывідуальным парадку, бясплатна для сваіх гімназістаў. Гэта значна павышае адукацыйны ўзровень вучняў і нараджае ў маладога чалавека ўпэўненасць у сваіх ведах, у сваіх сілах.

У гэтым годзе ўжо тры выпускнікі датэрмінова сталі студэнтамі ВНУ па выніках тэставання, якое праводзілася ВНУ рэспублікі і замежжа.

Дастаткова шмат зроблена намі за пяць гадоў. Гэта быў вельмі сур'ёзны этап станаўлення для ўсяго калектыву гімназіі. І разам з тым мы выдатна разумеем, што рухацца трэба далей упэўнена, стабільна і мэтанакіравана.

У нас ужо выпрацаваліся і сфарміраваліся свае прынцыпы. Захоўваючы іх, мы абавязкова даб'ёмся добрых вынікаў у сваёй працы:

Па-першае, выразна ўяўляць, у якім накірунку нам неабходна рухацца;

Па-другое, кіраваць гімназіяй, засноўваючыся на павазе і вучняў, і педагогаў;

Па-трэцяе, весці сапраўдны дыялог паміж суб'ектамі навучальна-выхаваўчага працэсу;

Па-чацвёртае, заўсёды арыентавацца на інтарэсы вучняў;

Па-пятае, выхоўваць у сабе ўнутраную адказнасць;

Па-шостае, выпрацоўваць прафесійную салідарнасць супрацоўнікаў; Па-сёмае, праводзіць пастаянную рэфлексію сваёй працы.

**Канстанцін ВЯЛІЧКОВІЧ, дырэктар Браслаўскай гімназіі.**



*Загадчыца кафедры замежных моў Ч.Ч.Закрэўская.*

## Ведаць для таго, каб умець, а ўмець для таго, каб дзейнічаць

Гімназія "наасфернага мыслення" — так хацелася б назваць нашу навучальную ўстанову. Менавіта разумная дзейнасць чалавека становіцца галоўным, вызначальным фактарам існавання і развіцця Браслаўскай гімназіі. Мы знаходзімся ў пастаянным руху і пошуку. Нашы галоўныя прынцыпы: дабрыня, клопат і павага да чалавека, творчасць ва ўсіх справах. Жыць у згодзе з прыродай, зберагаць і памнажаць яе прыгажосць, быць свабодным у сваіх рашэннях і адказным за свае ўчынкі. Мы сталі ўдзельнікамі праекта "Вучымся і вучым культуры свету". Сцвярджэнне новай філасофіі і псіхалогіі ва ўзаемаадносінах, пры якіх цярпімасць, прыняцце каштоўнасцей другога боку, узаемная павага, здольнасць цывілізавана ўзаемадзейнічаць адзін з адным і вырашаць узнікшыя праблемы стала важнейшым у нашай сістэме выхавання.

Вучэбны план гімназіі складаецца з абавязковага вучэбнага кампанента, у які ўваходзяць агульнаадукацыйныя дысцыпліны, і гімназічнага, які складаецца з профільных, культуралагічных дысцыплін і спецкурсаў. Пачынаючы з восьмага класа, вучні маюць магчымасць выбраць прыродазнаўча-матэматычны ці агульнагуманітарны профіль навучання. Культуралагічныя дысцыпліны вывучаюцца з пятага класа. Гэта этыка і культура паводзін, харэаграфія, другая замежная мова. З восьмага класа вывучаецца сусветная мастацкая культура. Распрацавана праграма "Чалавек у сучасным свеце", якая ўключае ў сябе, у залежнасці ад узросту вучняў, асновы этыкі і культуры паводзін, здаровага ладу жыцця, права, псіхалогіі, філасофіі жыцця, экалогіі. эканомікі.

Вышэйшым органам самакіравання вучняў у гімназіі з'яўляецца савет лідэраў. Указаны і прынцыпы дзейнасці савета: выбар савета (выбіраецца тайным галасаваннем, для арганізацыі перадвыбарнай кампаніі выбіраецца камісія), функцыі і правы савета, тэрмін дзейнасці і г.д. Распрацаваны ў гімназіі і Кодэкс гонару гімназіста.

Гімназічная адукацыя павінна даваць аснову сучаснага светапогляду аб адзінстве наасферы, сацыясферы і псіхасферы. Такім чынам, прынцып комплекснасці і універсальнасці — аснова пабудовы сістэмы зместу адукацыі ў гімназіі.

**Наталля АНДРУК, намеснік дырэктара па навукова-метадычнай рабоце.**

## "Гэта тое, што я люблю"

"...І вось тады, яшчэ ў холе з вялікімі люстрамі, я падумала, што трэба абавязкова стаць годнай гэтай вучэбнай установы. Што атрымалася — не ведаю, але я старалася...

Гімназія стала для мяне ў першую чаргу другім светам, зусім не падобным на той, што я ведала раней. І вучні тут іншыя, і настаўнікі, і ўмовы — усё было новым і захапляючым. І я адразу ж закахалася ў гімназію. Ды і як было не закахацца, калі на ўвесь свет у 13-14 гадоў і глядзіш толькі шырока адкрытымі, наіўнымі вачыма, калі свет здаецца і загадкавым, і разгаданай галаваломкай, а людзі і ўсе фарбы — больш яркімі і выразнымі.

Што ж, гімназія — гэта чатыры гады майго жыцця, гэта і поспехі, і расчараванні, і радасці, і засмучэнні, гэта і патрабаванне цярпення, і адчуванне, што яго не хапае, але гэта паўсядзённая дзейнасць, проста гэта тое, што я люблю."

**Таццяна ШЫНКЕВІЧ.**

"Гімназія з'явілася першай прыступкай вялікай лесвіцы, якую называюць жыццём. Менавіта яна дала першыя навыкі. Канешне, было і такое, калі не хацелася бачыць гэты будынак. Але заўсёды прыходзіш да думкі, што калі б не было "маёй" гімназіі, то жыццё было б непаўнацэнным, пустым".

**Ірына РЫЖЫКАВА.**

"Гімназія дапамагла мне не толькі палепшыць веды па гуманітарных прадметах, але і засвоіць асноўныя "законы" нашага быцця. Настаўнікі тут вучаць нас не толькі сваім прадметам, але і "жыццёвай" навуцы."

**Таццяна АРЦІМОВІЧ.**

"За чатыры гады, якія я правяла ў сценах гэтага унікальнага будынка, гімназія стала для мяне як бы другім домам, у які заходзіш — і ўсе твае беды адразу знікаюць, дзе табе заўсёды будуць рады верныя сябры, а настаўнікі дапамогуць добрай парадай.

Затое на памяць пра гімназію мне застанецца цудоўная форма зялёнага колеру, якая заўсёды будзе захоўвацца ў мяне дома і напамінаць пра лепшыя гады майго школьнага жыцця."

**Кацярына ПАЛЯНСКАЯ.**

## "Мы ўсе — адна сям'я!"

"За тое, што класы чыстыя і прыгожыя, за тое, што настаўнікі добрыя і разумныя, за тое, што гімназіяй кіруюць добрыя людзі. За від з акна на возера, за вельмі патрэбныя ўрокі, якія спатрэбяцца ў далейшым жыцці. За тое, што не даюць расслабляцца на ўроках, за вялікую бібліятэку".

**1. Максім МАЛАТОК, вучань 6 "Б" класа.**

"Гімназія надала нам больш упэўненасці ў сабе. Цяпер мы жывём прагай да навук! Калі я ўпершыню пераступіла парог гімназіі, у мяне было такое пачуццё, быццам перада мной адкрылася новае тысячагоддзе. Я люблю гімназію за тое, што ў ёй прафесійна працуюць настаўнікі. Яны заўсёды добрыя, лагодныя і ўважлівыя да нас. А дзеці такога ўзросту, як мы, у гэтым маюць патрэбу больш за ўсё".

**2. Галіна ПАДРЭЗ, вучаніца 6 "А" класа.**

"Кожны дзень я прыходжу ў гімназію з радасцю. Бачу ўсмешкі настаўнікаў, твары сваіх сяброў, аднакласнікаў. Я вельмі рады гэтай сустрэчы. Урокі праходзяць вельмі радасна, у кожным ёсць кропля фантазіі. Кожны настаўнік хоча перайначыць свой урок, зрабіць цікавей. Пасля заняткаў мне хочацца яшчэ застацца ў гімназіі, бо яна таксама прыгожая і вядзе да вялікіх ведаў".

**3. Дзяніс УГАРЭНКА, вучань 6 "Б" класа.**

"Як белая чайка, узвышаецца над возерам Дрывяты наша гімназія. Яна стаіць велічна, горда, як бы хоча сказаць, што яе вучні годныя яе самой. Уся гімназія патанае ў зелені і кветках. Вакол — асляпляльная чысціня. Унутры гімназіі ўтульна і цёпла. Светлыя, прасторныя класы кожны дзень сустракаюць сваіх вучняў, якія цягнуцца да навукі. Мы ганарымся нашай гімназіяй. І я лічу, што ганарымся мы ёю па праву. Яна адкрылася на радасць усім дзецям нашага горада. Жыві заўсёды, гімназія, бо мы ўсе — адна сям'я!".

**4. Кацярына ПЯТКУН, вучаніца 7 "Б" класа.**

"У гімназіі пpасторна і светла. У ёй заўсёды, нават калі на вуліцы ідзе дождж, свецяцца яркія і жывыя вочы гімназістаў. Вучні ўсе дружныя, заўсёды дапамагаюць адзін аднаму ў цяжкую хвіліну".

**5. Яна ШЫДЛОЎСКАЯ, вучаніца 7 "Б" класа.**

Сёння я ў гімназіі, як дома. Яна мне вельмі падабаецца. Тут шмат маіх сяброў. Усе настаўнікі ў гімназіі добрыя, стараюцца шмат чаму нас навучыць, каб мы маглі паступіць у любую ВНУ, каб мы ведалі пра ўсё, бо гэта ў будучым нам вельмі спатрэбіцца".

**6. Аляксандр ГАСЮЛЬ, вучань 7 "Б" класа.**



*Настаўніца В.А.Таланіна з вучнямі на выставе творчых работ гімназістаў.*

## Праз 100 гадоў

Як выпускнік, я маю свой погляд на гімназію і яе будучыню. Нехта, можа, з ім не пагодзіцца, але я прэтэндую на абсалютную праваду майго бачання.

1. Раз'язная гімназія.

Зыходзячы са спецыфікі нашага раёна, гімназія будзе спецыялізавацца на хіміка-біялагічных навуках. Для вывучэння іншых навук гімназісты будуць выязджаць у іншыя гарады і краіны.

2. Для многіх выпускнікоў важнай праблемай з'яўляецца атрыманне вышэйшай адукацыі. А я прапаную так: кожны год у красавіку наладжваць кірмаш мазгоў. Няхай прыязджаюць прадстаўнікі розных універсітэтаў і вярбуюць нашых гімназістаў.

3. А навошта нам выязджаць з Браслава? Няўжо наш выкладчыцкі састаў не зможа праводзіць лекцыі ў гімназіі, як ва універсітэце, напрыклад, няхай браслаўская гімназія стане Браслаўскім універсітэтам. Ці, у крайнім выпадку, установім інтэрактыўную сувязь з іншымі універсітэтамі. Тады ў Браславе мы зможам атрымаць вышэйшую адукацыю.

4. І яшчэ адна заўвага наконт будаўніцтва. Калі гэта будзе працягвацца такімі ж тэмпамі, дык да 2009 года мы адбудуем не толькі інтэрнат, стадыён, іншыя карпусы, але і падземны горад.

**Раман ЯРОЦКІ, выпускнік 1999 года, студэнт Кракаўскага універсітэта.**

Скажу добрае слова

# Сцяжынка жыцця

***Якою пуцявінаю пайсці ў жыцці? — такое пытанне хвалюе кожнага адзінаццацікласніка. Мяркую па асабістых назіраннях: моладзь, арыентуючыся на рэаліі сучаснага грамадства, імкнецца набыць менавіта тую прафесію, якая б цалкам задавальняла матэрыяльныя патрэбы. Што ж, гэтыя памкненні можна зразумець. Без грошай цяжка ўявіць жыццё. І ўсё ж чаму мною авалодваюць іншыя думкі, калі праходжу каля невялікай драўлянай хаты ў родным пасёлку Самахвалавічы? Сцяжынка, што вядзе да ўнутранага жытла колішніх настаўнікаў Марыі Тарасаўны і Емяльяна Дзмітрыевіча Цыбаковых, не зарастае ўлетку і ніколі не знікае ў гурбах зімою. У светлым пакойчыку заўсёды кветкі.***

***Некалі я амаль штодзень заўважала, як Марыя Тарасаўна, прыгожая, з густам апранутая, спяшалася ў школу да сваіх маленькіх вучняў. У настаўнікаў пачатковых класаў адказнасць вялікая, бо менавіта ў маленстве закладваецца аснова будучага чалавека.***

— Вельмі люблю дзяцей, — адказвае Марыя Тарасаўна на пытанне аб сваім жыццёвым выбары. — Хаця раней марыла стаць артысткай ці лётчыцай.

Відаць, артыстычныя здольнасці і такія рысы характару, як рашучасць, уменне хутка прымаць правільнае рашэнне і знаходзіць выйсце са складаных жыццёвых сітуацый, дапамаглі Марыі Тарасаўне ў педагагічнай рабоце. Дзеці, такія непрадказальныя, падчас супярэчлівыя, адкрывалі перад настаўніцай столькі нязведанага! Ды і Марыя Тарасаўна сваёй нястомнай энергіяй абуджала ў вучнях прагу да самастойнасці. І так кожны год.

Цяпер жа Марыя Тарасаўна на пенсіі. Любіць гартаць фотаальбомы і падоўгу расказваць пра кожнага са сваіх вучняў. Не можа інакш, хоць і даўно ўжо адзвінеў для яе школьны званок. А настаўніцкае жыццё ўсё роўна працягваецца ў думках і хваляваннях пра лёс Святланы, Ігара, Алены...

З радасцю сустракае Марыя Тарасаўна ў сваім доме вучняў, на жаль, не вельмі частых зараз, заўсёды прымае запрашэнні на вечары сустрэч з выпускнікамі. Ёй і цяпер хочацца быць сярод людзей, быць патрэбнай. Таму і не знікае сцяжынка да яе дома, у якім жывуць толькі чыстыя думкі, толькі добрыя словы, толькі светлыя ўспаміны. І мне думаецца, што, нягледзячы на свой узрост, Марыя Тарасаўна застанецца маладой яшчэ надоўга.

Прыгадваючы Марыю Тарасаўну, мне таксама хацелася б выбраць такую прафесію, якая б прыносіла ўнутранае задавальненне. На мой погляд, патрэбна гармонія матэрыяльнага і духоўнага, без якой няма руху наперад.

**Надзея ГУСЕЛЬНІКАВА, вучаніца 11 класа Самахвалавіцкай школы.**

Сталічная адукацыя

# Крок насустрач

***У сталічнай сярэдняй школе № 15 прайшоў другі, раённы, этап гарадскога конкурсу "Школа і сям'я — крок насустрач", ініцыятарамі якога стала Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама, Мінскі гарадскі інстытут удасканалення настаўнікаў пры садзейнічанні і падтрымцы гарадскога камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі. Шэсць навучальных устаноў Ленінскага раёна (сярэднія школы №№ 15, 47, 54, 161, 164 і ліцэй № 2) прадстаўлялі на конкурсе сваіх лепшых класных кіраўнікоў — пераможцаў першага школьнага этапа.***

Выяўленне найбольш эфектыўнага вопыту ўзаемадзеяння школы і сям'і ў выхаванні падрастаючага пакалення і распаўсюджанне гэтага вопыту сярод адукацыйных устаноў сталіцы — асноўная задача, якую давялося вырашаць строгаму, але справядліваму журы, у склад якога ўвайшлі інспектары аддзела адукацыі Ленінскага раёна Л.М.Есіна і Г.М.Ахрамовіч, кіраўнік метадычнага аб'яднання, псіхолаг школ раёна І.І.Санько, сакратар Камісіі па справах непаўналетніх Ленінскага раёна сталіцы Л.П.Скарабагатава.

Бацькі, дзеці і настаўнікі нездарма прыйшлі ў гэты дзень на конкурс. Яны не толькі актыўна падтрымлівалі сваіх самых "класных" класных, але і прадстаўлялі прысутным абранага выкладчыка, які, у сваю чаргу, прэзентаваў нестандартныя формы сваёй работы з сям'ёй, удзельнічаў у конкурсе планаў і метадычных распрацовак, нават выступаў разам з дзецьмі на сцэне...

Кожнае дзіця — найперш асоба, потым ужо вучань, — перакананы класны кіраўнік 8"А" класа школы № 164 Андрэй Мікалаевіч Талстой. Малады настаўнік выкладае рускую мову і літаратуру, таму не дзіўна, што яго вучні выказалі жаданне: "...няхай цягнецца вечна рускай мовы ўрок". Відаць, уласны вопыт, падыход да навучальнага працэсу, працаздольнасць педагога выклікалі ў хлопцаў і дзяўчат не толькі павагу і любоў, але, што галоўнае, жаданне вучыцца. Разам з васьмікласнікамі Андрэй Мікалаевіч прапанаваў на суд журы і гледачоў фрагмент правядзення класнай гадзіны "Сям'я, у якой жыву я".

Іна Анатольеўна Радзіміновіч выкладае ў сярэдняй школе № 54 нямецкую мову. Настаўніца расказала аб тых мерапрыемствах, якія кожную чвэрць рыхтуюцца ў школе па тэме "Бацькоўскі дом — пачатак пачаткаў", падзялілася вопытам і планамі на будучае, а дзеці распачалі на сцэне сапраўдную тэатральную пастаноўку. Дарэчы, спектаклі з удзелам вучняў у школе № 54 — не навінка, таму ўзбагачаныя практыкай і вопытам юныя артысты, не разважаючы, запрасілі ўсіх жадаючых да сябе ў госці на чаргова падрыхтаваную пастаноўку.

Сталыя выкладчыкі ліцэя № 2 Мінска адразу заўважылі ў маладога настаўніка фізікі Дзмітрыя Уладзіміравіча Багамолава яго тонкае педагагічнае чуццё. Першым крокам, зробленым у ліцэі Дзмітрыем Уладзіміравічам, стала наладжванне кантакту з бацькамі сваіх старшакласнікаў. Дарэчы, праз работу з сям'ёй будуецца і яго работа з дзецьмі, якія не саромеюцца давяраць любімаму класнаму свае праблемы, прыслухоўваюцца да парад, абмяркоўваюць набалелыя маладзёжныя пытанні. Розніца ва ўзросце паміж настаўнікам і яго вучнямі зусім невялікая, напэўна, менавіта гэта і адыграе вялікую ролю падчас агульных узаемін. Шчыра кажучы, гледзячы ў конкурсны дзень на сцэну, не адразу вылучыш Дзіму, як яго часам называюць школьнікі, з агульнага натоўпу старшакласнікаў. Сяброўскія абдымкі, песні пад гітару, на якой іграў настаўнік, простыя, але з сэнсам, размовы беспамылкова сведчылі ў гэты дзень аб тым, што ўсё гэта сапраўднае, штодзённае, звычайнае... а не добра падрыхтаваны для конкурсу сцэнарый.

Сярэдняя школа № 15 прадставіла кампетэнтнаму журы настаўніцу фізікі з трыццацігадовым педагагічным стажам Ніну Міхайлаўну Лукашэвіч, якая ў сваёй рабоце з дзецьмі і іх бацькамі значную ўвагу надае псіхолага-педагагічнай дыягностыцы. Шмат у чым настаўніцы дапамагаюць і калегі-прадметнікі. Індывідуальны падыход да кожнага вучня немагчымы без агульных намаганняў і класнага кіраўніка, і бацькоў, і ўсіх настаўнікаў. У гэтым сэнсе Ніна Міхайлаўна сваёй работай як нельга лепш адпавядае галоўнаму прынцыпу школьнай рэформы: "Ад адукацыі для ўсіх — да адукацыі для кожнага".

Тэлеперадача "Мая сям'я" падштурхнула ў свой час настаўніцу сярэдняй школы № 161 Святлану Мікалаеўну Знак скласці ўласную праграму "Школа і сям'я — крок насустрач". Актуальныя пытанні, пакладзеныя ў аснову яе распрацовак, прыносяць добрыя вынікі. Акрамя таго, нестандартная форма правядзення класнай гадзіны, падобнай на праграму Валерыя Камісарава, зацікавіла, галоўнае, саміх вучняў, якія жвава абмяркоўваюць падчас яе самыя розныя пытанні.

Актыўны ўдзел бацькоў вучняў 9"А" класа сярэдняй школы № 47 ва ўсіх справах і мерапрыемствах установы — заслуга прыгожай маладой выкладчыцы матэматыкі Вольгі Іванаўны Хурс. Ініцыятыўнасць, рухавасць, уважлівасць... — тыя якасці, якія, бясспрэчна, адпавядаюць настаўніцы. Добра разумеючы ролю сям'і ў выхаванні дзяўчат і хлопцаў, Вольга Іванаўна кожным сваім рабочым днём толькі ўзмацняе сувязь паміж школай — у сваёй асобе і сям'ёй — у асобе бацькоў падапечных. А яны адказваюць ёй любоўю і, галоўнае, неабыякавасцю.

Бясспрэчна, усе ўдзельнікі конкурсу заслугоўваюць высокай ацэнкі сваёй працы. Нездарма яны былі вызначаны лепшымі падчас першага, школьнага, этапа мерапрыемства. Сур'ёзнасць, з якой ставяцца настаўнікі да работы з сям'ёй кожнага вучня, ужо даўно прыносіць толькі станоўчыя вынікі. Аднак конкурс "Школа і сям'я — крок насустрач" павінен завяршыцца трэцім, гарадскім, этапам у снежні 2000 — студзені 2001 года. Менавіта таму Дзмітрыю Уладзіміравічу Багамолаву (ліцэй № 2) давядзецца стаць прадстаўніком Ленінскага раёна на заключным этапе мерапрыемства. Шчыра прызнаюся, я адразу пераканалася ў тым, што Дзіма абавязкова стане пераможцам. І ўласная мая сімпатыя да яго, між іншым, трымаецца на ўпэўненасці ў тым, што ён сапраўды самы "класны" класны кіраўнік. Поспехаў Вам, Дзмітрый Уладзіміравіч!

**Вольга ДУБОВІК.**

Пазашкольная педагогіка

# Калі гара не ідзе да Магамета...

***"Артысты прыехалі, артысты прыехалі!" — вестка маланкай пранеслася па навакольню школы-інтэрната і застыла дзесьці на парозе клуба: уваход быў забаронены, бо артысты рыхтаваліся да выступленняў. А так хацелася паглядзець! Так пачынаўся ўжо ў каторы раз Дзень Дома творчасці ў Ветрынскай школе-інтэрнаце.***

Неўзабаве дзверы клуба гасцінна расчыніліся, і зала напоўнілася шумам, смехам, гаворкай. Тут ужо захваляваліся артысты. Але больш удзячнага гледача не магло і быць. У поўнай цішыні прайшоў спектакль па матывах кнігі Д.Харысана "Сказки дядюшки Римуса". Артысты пераўзышлі самі сябе: верылася, што Іра Аўласенка — сапраўдны Браток Апосум, Наташа Бурэц — Браток Янот, Насця Караткевіч — Мядзведзь Міхаіл, Оля Белавусава — цётка Чарапаха, а Лена Смаргун — Браток Сарыч. Словы аўтара чытала Лена Іванова. Кіраўнік клуба арганізатараў вольнага часу А.Л.Янчанка выконвала галоўную ролю — Братца Кроліка.

Спектакль закончыўся. Музыкай гучалі словы: "А калі яшчэ прыедзеце?"

Дзень Дома творчасці ў школах раёна даўно ўжо стаў традыцыйным. Гэта, мабыць, самая дзейсная форма наладжвання кантактаў са школамі, аказання неабходнай метадычнай дапамогі канкрэтнай школе з выхадам на педагагічны і дзіцячы калектывы.

Бо ў праграме Дня — вялікая выстава работ удзельнікаў гурткоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і народных рамёстваў. Мэта выставы — прапаганда-прапанова арганізацыі гурткоў гэтых накірункаў у школах.

Для настаўнікаў — кансультацыі па пытаннях пазашкольнай работы або наогул метадычная вучоба па канкрэтнай тэме, выстава метадычных распрацовак "Набліжаецца свята", "Прыемныя гадзіны ў канцы вучэбнага тыдня", "Метадычнае забеспячэнне работы школьнага гуртка па інтарэсах" і інш. Усё залежыць ад канкрэтных абставін у канкрэтнай школе.

Для вучняў малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту — выступленне творчага калектыву Дома творчасці або работа выязнога клуба па інтарэсах. Заняткі ў клубе вядуць кіраўнікі гурткоў Дома творчасці: Г.П.Віскуп — аплікацыя з саломкі, І.В.Гарбар — гліняная цацка, З.М.Скавародка — пачатковае тэхнічнае мадэліраванне, Л.У.Міхайлава — малюнак і жывапіс, О.С.Холад — работа са скурай. Педагогі працуюць па поўнай праграме — 2 гадзіны.

Так задумана, так і робіцца ўжо на працягу больш дзесяці гадоў, каб кожны вучань, які ў гэты дзень займаецца ў адным з гурткоў, зрабіў сабе падарунак.

Для вучняў старэйшых класаў мы ладзім пастаянна дзеючы лекторый "Ты і Закон". Але такая форма работы па прававому выхаванню школьнікаў і фарміраванню здаровага ладу жыцця нарадзілася не адразу. Напачатку Дом творчасці і Ветрынская сярэдняя школа (дырэктар Л.М.Васева) аб'яднaлі свае намаганні і арганізавалі работу лекторыя "Ты і Закон" на базе Дома творчасці. У рабоце лекторыя прымалі ўдзел работнікі праваахоўных органаў, псіханеўралагічнага і скурвенералагічнага дыспансэраў, спецыялісты РАА.

І вось ужо чацвёрты год, як лекторый выйшаў за рамкі адной школы і стаў раённым і пастаянна дзеючым. Па заяўках школ, з улікам сітуацыі ў канкрэтнай школе складаецца графік работы — адзін раз у месяц. Дом творчасці дамаўляецца з удзельнікамі (лектарамі). РАУС, а з гэтага навучальнага года і РАА забяспечваюць транспартам. У вызначаны час брыгада ў складзе педагогаў Дома творчасці і супрацоўнікаў усіх зацікаўленых арганізацый РАУС, камісіі па справах непаўналетніх, псіханеўралагічнага і скурвенералагічнага дыспансэраў, работнікаў суда і пракуратуры выязджае ў школу. Зразумела, што састаў мяняецца ў залежнасці ад абставін. Але адказны сакратар па справах непаўналетніх В.М.Зюзелева і намеснік начальніка РАУС М.В.Южанкоў удзельнічаюць заўсёды.

Форма правядзення лекторыя — самая розная — ад індывідуальнай работы з падлеткамі групы рызыкі, гадзіны пытанняў і адказаў, конкурсу знатакоў права да сустрэчы з цікавымі людзьмі. Бо добра вядома, што поспех або няўдача нашага мерапрыемства ў першую чаргу залежыць ад таго, хто будзе працаваць з падлеткамі.

І калі з падлеткамі размаўляюць суддзя Е.В.Ягорава, работнік пракуратуры А.В.Мальцаў, альбо гутарку вядуць урач-венеролаг А.Д.Шніпава і Н.В.Максімянюк — урач псіханеўралагічнага дыспансэра — гэта ўспрымаецца зусім інакш, чым ушчуванні класнага кіраўніка.

Вось і атрымалася, як у той прымаўцы: "Калі гара не ідзе да Магамета, дык Магамет ідзе насустрач гары". Так наш Дом дзіцячай і юнацкай творчасці па асабістай ініцыятыве прыйшоў у школу і наладзіў у яе сценах выхаваўчую работу з дзецьмі.

**Аліна МУРАЎЁВА, кіраўнік Дома дзіцячай і юнацкай творчасці Полацкага раённага аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай выхаваўчай работы г.п.Ветрына.**

